

Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№110 (1126) 15 чэрвеня 1995 г. Чацвер.

Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 541649 экз. Кошт у розніцу — 300 руб.





## Вкратце

***Поиски Джохара Дудаева и начальника штаба чеченских вооруженных формирований Аслана Масхадова продолжились в среду, сообщил представитель российского командования в Чечне.***

По данным военной разведки, во вторник Д.Дудаев находился в селении Шатой, а А.Масхадов — в Ножай-Юрте. Оба населенных пункта были взяты под контроль федеральными войсками 13 июня.

❑

***В Тбилиси в среду открылось совещание министров внутренних дел стран СНГ.***

Руководители МВД 12 государств Содружества предполагают обсудить вопросы расширения сотрудничества в области борьбы против организованной преступности и наркобизнеса, а также сотрудничества в охране грузов при их транспортировке по железной дороге.

❑

***Курс российского рубля по отношению к доллару США на торгах Московской межбанковской валютной биржи 14 июня вырос на 70 пунктов по сравнению с торгами во вторник и составил 4766 рублей за доллар.***

❑

## Инвестиционные фонды под надзором

***Столичной прокуратурой возбуждено шесть уголовных дел против фирм, занимающихся инвестиционно-финансовой деятельностью.***

А в целом под надзором правоохранительных органов находится около 20 подобных организаций. Об этом сообщил 13 июня на пресс-конференции в Мингорисполкоме прокурор г.Минска Николай Куприянов.

**Александр КАЗАК.**

## Ура! Цены снижены!

***Пожалуй, впервые за послевоенное время своего существования витебская площадь Свободы превратится сегодня в рынок со свободными ценами.***

Здесь по решению местных властей состоится то, что в странах Запада привычно именуется "дешевой распродажей", — бойкая торговля удешевленными товарами, опоздавшими к сезону.

Нам пока сезон — не указ, а цены, как правило, "всепогодные". Что же касается сегодняшней ярмарки, то это — мера вынужденная. Народу будут предложены разнообразные промышленные и продовольственные изделия, избыток которых накопился на предприятиях и базах: от ковров до мебели, от консервов до сахара. И все — дешевле, чем в магазинах. Налицо естественная для рыночных отношений очень пикантная для государственной экономики попытка привлечь покупателя и побыстрее перекачать наличные из карманов в заводские кассы и казну. Нашлись бы только деньги в карманах!

**Сергей ДВИНСКИЙ.**

## Ремонт улиц за счет автомобилистов

***Гродненский городской Совет принял решение обратиться к жителям областного центра, имеющим личный транспорт, с предложением о переводе ежегодного добровольного взноса в сумме 50 долларов для финансирования ремонта проезжей части улиц города.***

Средства планируется переводить во внебюджетный фонд горисполкома, откуда они будут поступать по прямому назначению. Отчет об использовании внебюджетных средств возложен на начальника городского жилищно-коммунального хозяйства господина Шпака.

**Андрей МИНСКИЙ.**

## Не бери чужого и не бойся ничего

***На нет сведены случаи хищения продукции на мясокомбинате в Жлобине.***

Прежде воровство здесь было делом обычным. В результате руководство предприятия вынуждено было пойти на решительный шаг — за любое хищение неотвратимо следовало увольнение. По словам директора мясокомбината Сергея Кузьменкова, пришлось расстаться даже с наиболее опытными и ценными для предприятия работниками. Устроиться же уволенному на новое место работы в Жлобине весьма сложно: сегодня многие предприятия города по разным причинам простаивают.

**Тимофей ВОРОНОВ.**

## Аргументы "крутых" — оружие?

***В Рогачеве в среде "крутых" траур. В результате одной из разборок убит "авторитет" по кличке Малах.***

Трагедия случилась якобы в результате выяснения отношений с так называемыми лицами кавказской национальности. В тот момент, когда словесные аргументы в споре иссякли, рука одного из оппонентов потянулась к оружию.

Утверждают, будто в городе это уже второй подобный случай. В первом несговорчивому надели наручники, привязали к ногам груз и бросили в реку.

**Тимофей ВОРОНА.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Интерфакс, Белинформ, РИД.**

## Пока "афганцев" лечат... обещаниями

***В минской штаб-квартире СНГ проходит двухдневное заседание комиссии экспертов, которым предстоит определить дальнейшую судьбу межгосударственной социальной программы охраны здоровья и реабилитации воинов-интернационалистов, принятой в октябре 1992 года.***

Напомним, что этот документ предполагает формирование стройной системы социальной помощи и охраны здоровья воинов-интернационалистов, членов их семей и родителей погибших бойцов. Намечается строительство сети хорошо оснащенных центров реабилитации и протезирования. Предусматривается введение медицинского страхования "афганцев", которое обеспечивало бы им высококвалифицированную помощь в любом из государств СНГ, развитие производств для выпуска инвалидных колясок и тренажеров, создание благотворительной аптечной службы и многое другое.

Важная роль программой отводится Беларуси. На базе госпиталя инвалидов Отечественной войны в Боровлянах планируется организовать межгосударственный реабилитационный центр. В Минске должна быть поднята на современный уровень техническая база протезного завода. Намечается также широко использовать разработки белорусских исследователей и практических врачей. Словом, программа важная, актуальная и преследует откровенно благородные цели.

Но, как уже не раз бывало в Содружестве, на ее реализацию у большинства стран не нашлось денег. По существу, только Россия сделала робкую попытку ее финансирования — выделила в 1993 году 192 миллиона рублей, в 1994 — 772 миллиона. Вклад Беларуси за два года исчисляется 31 миллионом российских рублей, Молдовы — 1 миллионом и Армении — 800 тысячами рублей. Остальные государства от взноса средств в общую копилку воздержались.

Нынешний большой сбор экспертов, по замыслу Комитета по делам воинов-интернационалистов при Совете глав правительств, должен прийти к согласию о продлении сроков реализации программы до 1998 года. Если это случится и с мнением специалистов согласятся премьеры, то в будущем году государства Содружества возьмут на себя обязательство "отжалеть" на нужды "афганцев" свыше 2 миллиардов рублей. Это намного больше, чем за все предыдущее время. Но на то должна быть добрая воля...

**Владимир ВОЛЧКОВ.**

*Наступны нумар "Народнай газеты" выйдзе 17 чэрвеня г.г.*

Фестывалі

## Паэзіі і музыкі спатканне



Марыя ЖЫЛІНСКАЯ, фота аўтара

Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі, які нарадзіўся ў Маладзечне, перасяліўся ў Мінск. Многія наракалі яму з яркага, прыгожага музычнага відовішча ў Маладзечне ператварыцца ў адно з чарговых сталічных мерапрыемстваў.

Але ўсё ж такі свята ў канцэртнай зале па вуліцы Кастрычніцкай, 5 атрымалася. Гледачы, госці фестывалю пабачылі і пачулі ўсіх самых яркіх эстрадных зорак рэспублікі: А.Ярмоленку з "Сябрамі", Я.Паплаўскую, А.Ціхановіча, Л.Ялінскую, Н.Кудрыну, ансамблі "Верасы", "Краму", "Бяседу"...

Учора адбыўся юбілейны канцэрт ансамбля "Верасы". Гледачоў чакае вялікі гала-канцэрт з удзелам пераможцаў III Нацыянальнага фестывалю.

На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## Паўторныя выбары адбудуцца ў лістападзе. Але ці спыніць сваю дзейнасць Вярхоўны Савет 12-га склікання, пакуль што невядома

**Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ**

Учора пачалася сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Адкрываючы яе, Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб сказаў:

— Мы склікалі пленарнае пасяджэнне нечарговай 17-й сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь згодна з заканадаўствам рэспублікі, каб параіцца і вырашыць жыццёва важныя пытанні для нашай краіны, якія ўзніклі ў апошні час. Вырашэнне гэтых пытанняў датычыцца не толькі работы Вярхоўнага Савета 12-га склікання, але і кожнага дэпутата Вярхоўнага Савета 12-га і ўжо 13-га склікання.

Я не маю намеру рабіць сёння справаздачу ні за год, ні за ўвесь тэрмін работы нашага Вярхоўнага Савета, бо яна заслухана вамі на мінулай сесіі.

Хачу толькі адзначыць, што Вярхоўны Савет у апошні час занадта часта крытыкуюць, хаця ў большасці сваёй беспадстаўна, літаральна зрабіўшы яго своеасаблівым маланкаадводам. За пяць гадоў дзейнасці гэтага Вярхоўнага Савета былі пэўныя поспехі, здараліся і пралікі. Але я ніколі не пагаджуся з тымі людзьмі, якія ацэньваюць работу парламента толькі цалкам адмоўна.

Хачу адзначыць галоўнае: Вярхоўнаму Савету гэтага склікання ўдалося стварыць незалежную суверэнную дзяржаву, якую прызналі ва ўсім свеце. Беларусь набыла павагу сусветнага супольніцтва за сваё імкненне і канкрэтныя крокі да статусу бяз'ядзернай і нейтральнай краіны.

Дай Бог, як кажуць, новаму складу Вярхоўнага Савета не згубіць гэтага.

Далей Мечыслаў Іванавіч паведаміў, што Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі тройчы разглядаў становішча, у якім апынулася Беларусь пасля парламенцкіх выбараў. Новы парламент не абраны, па закону ён не можа прыступіць да працы, але і дэпутаты дванаццатага склікання не могуць працаваць. Таму Прэзідыум і вынес на разгляд сесіі некалькі прапаноў: па-першае, прызначыць паўторныя выбары ў Вярхоўны Савет 13-га склікання згодна з тым законам, які дзейнічае. Па-другое, для хутчэйшага пачатку работы Вярхоўнага Савета 13-га склікання патрэбна ўнесці адпаведныя змены ў Закон аб Вярхоўным Савеце — зменшыць кворум правамоцнасці Вярхоўнага Савета да 1/2 ці 2/5 ад агульнай колькасці дэпутацкага корпуса.



❑ *Знаёмыя ўсё твары...*

Па-трэцяе. Неабходна вырашыць, ці, згодна з артыкулам 91 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, працаваць гэтаму складу Вярхоўнага Савета да адкрыцця 1-га пасяджэння Вярхоўнага Савета новага склікання, ці прыняць пастанову аб датэрміновым спыненні паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета 12-га склікання, а гэта значыць і ўсіх дэпутатаў цяперашняга склікання.

Пачалося бурнае абмеркаванне прапаноў Прэзідыума. Так, многія народныя дэпутаты заявілі, што нельга змяняць Закон аб Вярхоўным Савеце, трэба ўнесці праўкі ў Закон аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Чытачы памятаюць, што згодна з гэтым законам выбары лічацца адбыўшыміся, калі ў іх прыняло ўдзел больш за 50% выбаршчыкаў. Народны дэпутат Станіслаў Шушкевіч прапанаваў знізіць гэтую планку да 40, а можа, і да 25%. Яго падтрымаў дэпутат Станкевіч. Але знайшліся і праціўнікі такой прапановы. У рэшце рэшт, у парадак дня не ўключылі ні прапанову Прэзідыума аб унясенні змяненняў у Закон аб Вярхоўным Савеце, ні прапанову Станіслава Шушкевіча аб унясенні паправак у Закон аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

Дэпутаты папрасілі выказацца па гэтым пытанні Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку. Ён сказаў, што згодны з тымі выказваннямі, у якіх гаворыцца аб палітычным крызісе ў рэспубліцы. Больш таго, па словах Лукашэнкі, зараз мы знаходзімся ў палітычным тупіку. І цяпер трэба шукаць не вінаватых, факт адбыўся, а выйсце. Прэзідэнт заявіў, што ён гатовы падтрымаць любое рашэнне, якое дасць магчымасць працаваць новаму парламенту, але найлепшае, на яго думку, што можа зрабіць стары парламент, гэта ўнесці змяненні ў Закон аб Вярхоўным Савеце, зменшыць кворум правамоцнасці з 2/3 да 2/5 ад агульнай колькасці дэпутатаў і аб'явіць аб сваім самароспуску.

Гэтая прапанова выклікала вельмі ажыўленую рэакцыю дэпутатаў, але, якое яны прымуць рашэнне — невядома. Абмеркаванне працягваецца. Пакуль жа толькі вызначана, што паўторныя выбары адбудуцца ў лістападзе ў будны дзень, які будзе аб'яўлены выхадным.

## Вчера в Минске взорвался бизнесмен. Вместе с машиной



***Это было средь бела дня — в 9 часов 40 минут на глазах у десятков минчан, мирно шедших по улице Куйбышева. Это было в центре столицы.***

Бежевый "Форд таурус", не спеша, выехал со стоянки и стал набирать ход. Через несколько сотен метров, по предположениям, прогремел взрыв. Прохожие рассказали мне, что объятая пламенем машина, виляя из стороны в сторону, еще проехала по инерции метров сто и затем остановилась. Очаг пламени затушили все те же прохожие. Но водителю это, увы, не помогло — из машины он выскочить не смог. Обгорелый труп достал прибывший наряд милиции. На фотографии видно, как офицер закрывает дверцу УАЗа с жертвой внутри. По предварительным данным, автомобиль был зарегистрирован на Т., директора малого предприятия "Агропромсервис", 1961 года рождения. Пока нельзя с достоверностью утверждать, что погиб именно он. Опознания трупа на момент сдачи этого материала еще не было проведено. Нельзя утверждать и что погибший стал жертвой криминальных разборок. Не исключается вероятность неосторожного обращения с автомобилем.

Печальное событие. Страшная новость.

С фотокором газеты я прибыл на место происшествия примерно через час после трагедии. Движение транспорта было перекрыто, несколько сержантов и офицеров пресекало попытки любопытных разглядеть вблизи обгоревший остов иномарки. Впрочем, смотреть было не на что — от машины ничего, кроме кузова, не осталось. Огонь не тронул только два передних колеса, передние фары и госномер — 2173 MI. Поразило и другое — обозленная реакция старшего лейтенанта милиции, препятствовавшего сбору информации и "посоветовавшего" даже не расчехлять фотокамеру. Красное журналистское удостоверение на него подействовало, простите, как... дальше догадаться нетрудно. Подобная секретность на глазах у сотни людей вызвала у последних горькую улыбку. Что ж, нам не привыкать к милицейским запретам, к угрозам разбить дорогостоящую фотоаппаратуру и кое-что еще. С горечью приходится констатировать, что мания запретительства становится "нормальной" милицейской реакцией на работу журналистов. Обидно.

А покореженный "Форд" мы все-таки сняли. Пусть не так хорошо видно, но в укор милиции — от себя, от читателей, от налогоплательщиков.

**Юрий НОЯРОВИЧ.**

## Выборы были равные, демократичные и... безуспешные

***Заместитель главы администрации Президента Беларуси М.Сазонов на состоявшейся 13 июня пресс-конференции подвел итоги выборов в Верховный Совет нового созыва.***

По мнению М.Сазонова, "выборы прошли достаточно демократично, и у людей была возможность высказать свое мнение". "Утверждение о том, что выборы проходили в условиях прессинга на избирателей, попыток исполнительной власти повлиять на мнение избирателей незаконными методами, не имеет под собой оснований. Это подтверждается выводами, сделанными Центральной избирательной комиссией, а также международными наблюдателями", — подчеркнул заместитель главы администрации Президента.

Вместе с тем М.Сазонов признал, что недостатки в ходе избирательной кампании все же присутствовали, особенно это касается освещения кампании в республиканских средствах массовой информации. Однако, считает он, причиной этого стали не действия исполнительной власти, а несовершенство существующего законодательства, в частности Закона о выборах. Указ же Президента о равных возможностях призван был лишь компенсировать недостатки этого закона, дать всем кандидатам в депутаты действительно равные права для пропаганды своих идей. "Кроме того, указ отнюдь не предусматривал каких-либо жестких ограничений на освещение выборов в прессе. В конце концов, он имел лишь рекомендательный характер", — отметил М.Сазонов.

Сложившуюся ситуацию, при которой даже половины состава нового парламента не было избрано, М.Сазонов назвал тупиковой. По его словам, Президент заинтересован в том, чтобы Верховный Совет — старого или нового созыва — начал работу как можно скорее. Однозначного мнения о том, как преодолеть кризис законодательной власти, в администрации Президента нет. Выход из него, по словам М.Сазонова, должен быть найден усилиями самих депутатов. Вместе с тем возможное разрешение кризиса путем снижения кворума, необходимого для признания нового Верховного Совета полномочным, М.Сазонов считает более корректным с юридической точки зрения, нежели снижение 50-процентного явочного барьера.

**Александр ПАТУТИН, РИД.**

## Я предлагаю свой вариант!

Хочу высказать свое мнение в отношении нынешней избирательной системы.

Чтобы не пускать народные миллионы рублей "коту под хвост", предлагаю внести в избирательную систему изменения:

— при подсчете голосов не принимать во внимание списочный состав избирателей;

— считать за 100% избирателей, принявших участие в голосовании;

— считать избранным депутатом, получившим наибольшее количество голосов от принявших участие в голосовании;

— проводить второй тур голосования только в случае получения одинакового наибольшего количества голосов несколькими кандидатами.

На формулировках я не настаиваю, а содержание их вам понятно.

Этим мы сбережем огромные народные средства и приучим нерадивых избирателей задуматься о своем поведении.

**Виталий ТИШКОВ,**
**ветеран войны и труда.**

